# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 11 (837) ГОД XVII БЕЛАСТОК 12 САКАВІКА 1972 г. ЦАНА 60 гр.

## ВОПЫТНЫ ПЕДАГОГ І ДЗЕЯЧ

Адным з кандыдатаў на пасла з 10 выбарчай акругі з'яўляецца Уладзіслава Ясельчук — настаўніца, намеснік кіраўніка пачатковай школы ў Саколцы. Знаюць і паважаюць педагога Ясельчук не толькі дзеці ўласнай школы, але настаўнікі павету, прадстаўнікі грамадскіх і палітычных устаноў.

Уладзіслава Ясельчук сустрэлася з Саколкай пасля заканчэння педагагічнага ліцэя ў Бельску. Іменна тады, у 1954 годзе, атрымала накіраванне на працу ў пачатковай школе № 2 у Саколцы. Потым прафсаюзная арганізацыя настаўнікаў паручае ёй функцыю штатнага сакратара павятовага праўлення ЗНП. На працягу сямі гадоў маладая настаўніца дапамагае настаўнікам, працуючым на вёсках і ў горадзе, здабываць вопыт. Але, каб лепш дапамагаць іншым, трэба самому вучыцца. І таму У. Ясельчук першапачаткова завочна заканчвае настаўніцкую студыю ў Варшаве, а потым, ужо як настаўніца пачатковай школы № 4 у Саколцы, яна атрымлівае дыплом і званне магістра педагогікі ў Вышэйшай педагагічнай школе ў Гданьску. Ад 1968 года даручаецца ёй функцыя намесніка кіраўніка пачатковай школы № 4 у Саколцы.

Пачатковая № 4 змяшчаецца ў новым будынку «за горадам», як тут некаторыя гавораць, хаця фактычна тут паўстае новы прыгажэйшы квартал горада. У. Ясельчук застаем у канцылярыі — размяркоўвае план урокаў. Перапынак. З урока прыходзіць кіраўнік школы. Пачынаем супольную размову. Аднак кіраўнік вымушаны быў выйсці, каб правесці ўрок за непрысутнага настаўніка. Сёння ў сакольскай «чацвёрцы» не прысутнічае сем настаўнікаў.

— Гэта праблема? — пытаю намесніка кіраўніка.

— Праблема настолькі, што настаўнікі часта непатрэбна трацяць час на розных канферэнцыях, нарадах, якія шчыра кажучы, ні ў чым не дапамагаюць настаўніку. А з другога боку, заўсёды будзе выступаць недахоп настаўнікаў у

(Працяг на стар. 4)



## ПЕРАДАВЫ РАБОЧЫ І АРГАНІЗАТАР

Бельшчына будуецца...

Даволі хоць бы мімаходам глянуць на любую вёску ці мястэчка ў Бельскім павеце, і вы без затрымкі на кожнай вуліцы налічыце восем, дзесяць, а то і болей новых мураваных дамоў. Цёплым сонечным колерам сваіх цагляных сцен наў яны прыцягваюць ваш зрок.

У кожным гэтым новым доме укладзены цагліны рабочых двух прадпрыемстваў з Орлі Бельскага павету — цагельні і кафлярні. Яны — фундамент быту гэтага мястэчка, яны — і цэнтр увагі арлянцаў. Падзел на два прадпрыемствы тут зусім умоўны, бо яднае іх і від прадукцыі — цэгла і кафля — і аднолькавыя праблемы, што датычаць павышэння якасці вырабаў і павелічэння колькасці вытворчасці, і супольная падставовая партыйная арганізацыя, якую складаюць дваццаць восем камуністаў, і асоба Яна Войны — сакратара гэтай арганізацыі. Гэты прыстойны, удумлівы і энергічны чалавек з'яўляецца душой абодвух рабочых калектываў.

З Янам Войнам пазнаёміўся я ў часе яго працы. Ён падаў мне сваю моцную цвёрдую руку і зараз жа паклаў яе на рычагі машыны. Доўгая чародка ваганетак пад'язджала пад коўш экскаватара-капаркі. Здавалася б, што можа быць прасцейшага ад працы экскаватаршчыка: пачарпнуў каўшом гліны з кар'еру — ды ў ваганетку. Але Ян Война робіць гэта ўважліва, пільна сочачы, каб сыравіну пачарпнуць чыстую, перанесці яе ў ваганетку асцярожна, не рассыпаючы па рэйках, каб ваганеткі былі ў меру напоўнены і каб экскаватар працаваў спраўна, без замінкі, як гадзіннік.

Па-гаспадарску да сваіх прадпрыемстваў адносіцца ўвесь рабочы калектыў цагельні і кафлярні. Але гэтая ўласцівасць у Я. Войны проста ў натуры. Возьмем хаця б адзін такі прыклад. У мінулым годзе ў кафлярні дырэкцыя трэсту хацела ліквідаваць адзін цэх. Без працы засталося б пятнаццаць чалавек. Трагічнасць сітуацыі гэтых людзей была не толькі ў тым, што ў Орлі знайсці працу вельмі цяжка, але і ў тым, што доўгія гады працы звязалі іх думкі і сэрца з гэтым прадпрыемствам. Партыйная арганізацыя даручыла свайму сакратару абараніць цэх. І ён усім сэрцам аддаўся гэтай справе. Ездзіў у Беласток да дырэкцыі трэста, прадстаўляў праблему ў павятовым камітэце партыі ў Бельску. І свайго дабіўся. Было прынята рашэнне ўтрымаць цэх, правесці ў ім капітальны рамонт на суму 100 тысяч злотых. «Хто да нас з хлебам, мы да таго ўдвая з сэрцам» — адклікнуліся члены партыйнай арганізацыі і прынялі грамадскія абавязацельствы пры рамонце. Да дадатковай працы сталі ўсе рабочыя: разабралі старую печ, вывезлі груз, адрамантавалі падлогі. Вартасць чыну склала 64.260 злотых. А калі ў новай печы шуганула полымя і ўмешкі задаваль-



(Працяг на стар. 5)

ДА VII З'ЕЗДУ БГКТ

## БЕЛАРУСЫ Ў ГДАНЬСКУ

Гданьск — вуліца Доўгі Тарг 8/10. Тут, у самым цэнтры марской сталіцы Польшчы, на другім паверсе знаходзіцца клуб гданьскага аддзела Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Увечары, пасля працы ці заняткаў у школе, прыходзяць сюды беларусы, каб некалькі гадзін пагаварыць «па-свойму», пачытаць беларускія часопісы ці проста патанцаваць. Усе яны людзі розных прафесій: рабочыя, студэнты, настаўнікі, пенсіянеры — спалучае іх мова, пашана да традыцый, а таксама месца нараджэння — Беласточчына. Часта заглядаюць сюды і палякі — перасяленцы з Савецкага Саюза, якія калісь жылі сярод беларусаў, сёння прыходзяць яны ўспамінаць мінуўшчыну.

Гданьскі аддзел налічвае цяпер ужо 117 членаў, і гэта ўжо моцная арганізацыя. Паўстаў у 1969 годзе з гуртка, які існаваў там ад 1967 года. Тады не мелі яшчэ свайго клуба, прыходзілася бадзяцца, шукаць памяшкання ў іншых. Найчасцей карысталіся з клуба Украінскага грамадска-культурнага таварыства. Зрэшты, па сённяшні дзень гэтае супрацоўніцтва даволі моцнае, паколькі абедзве арганізацыі працуюць пад адным дахам. Старшыня Ваяводскага праўлення УГКТ Паўло Крымінскі прыхільным вокам глядзіць на Беларускае таварыства і хацеў бы гэтае супрацоўніцтва яшчэ больш зацесніць.

Член Галоўнага праўлення БГКТ доктар Аляксандр Баршчэўскі на другой справаздачна-выбарнай канферэнцыі, якая адбылася ў Гданьску 12 лютага, сказаў, што калісь, калі не мелі ўласнага клуба, было больш запалу, самаахвярнасці, чым цяпер. І гэта праўда. Але няма тут, мусіць, нічога дрэннага, гэта проста заканамернасць. Цяпер пара ўжо перайсці

Працяг на стар. 4

## БГКТ ХРОНІКА

■ Прэзідыум бельскага аддзела БГКТ пад старшынством А. Карпюка 16 лютага разгледзеў усе справы, звязаныя з падрыхтоўкай справаздачна-выбарнай канферэнцыі, якая адбудзецца 12 сакавіка. Другі пункт пасяджэння быў прысвечаны конкурсам тэатральных калектываў і беларускай песні — 72.

■ 17 лютага прэзідыум ГП на сваім чарговым пасяджэнні найбольш часу прысвяціў абмяркоўцы працы беластоцкага павятовага аддзела БГКТ у заканчваючайся кадэнцыі. Справаздачу аб дзейнасці аддзела прадставіла сакратар праўлення Б. Філіпюк. У пасяджэнні прынялі ўдзел таксама члены прэзідыума аддзела: Н. Мушынская, Н. Цыванюк і Я. Цялушэцкі. Прэзідыум ГП высока ацаніў дзейнасць аддзела і яго многіх членаў, а перш за ўсё працу сакратара. Далейшыя пункты пасяджэння: 1) аналіз лічбавага стану членаў БГКТ у паасобных аддзелах, 2) інфармацыя аб падрыхтоўцы новай праграмы «Лявоніхі», якую зрабіла кіраўнік эстрады Т. Вашчук, 3) рэдактар беларускага календара на 1973 год паінфармаваў прысутных аб змесце паасобных раздзелаў будучага календара, 4) арганізацыйны кіраўнік ГП С. Лукашук паведаміў прэзідыуму, як рыхтуюцца да конкурсаў паасобныя тэатральныя калектывы і людзі, якія прымуць удзел у конкурсе на беларускую песню. Апошнім пунктам пасяджэння прэзідыума ГП былі арганізацыйныя справы.

■ Гайнаўскі аддзел БГКТ супольна з павятовым праўленнем Таварыства польска-савецкай дружбы запрасілі на Гайнаўшчыну афіцэра Паўночнай групы войск Савецкай Арміі А. К. Калмыкова і афіцэра Войска Польскага Я. Клюба. 19 лютага ўдзельнічалі ў акадэміі беларускага ліцэя, прысвечанай 54 гадавіне Савецкай Арміі. Госці разам з прадстаўнікамі БГКТ злажылі кветкі на магілках савецкіх салдат у Гайнаўцы і на магіле лейтэнанта Маскаленкі ў вёсцы Старына, а пасля прысутнічалі на акадэміі ў Палічнай і там сустрэліся з мясцовым актывам. Таварыш Калмыкоў усёды выступаў з цікавай прамовай аб Савецкай Арміі.

■ 20 лютага гарадскі аддзел БГКТ у Беластоку таксама з удзелам прадстаўнікоў Паўночнай групы войск Савецкай Арміі арганізаваў акадэмію. У мастацкай частцы выступіў калектыў клуба ВРН.

### КАНФЕРЭНЦЫЯ І АГЛЯД ПЕСНІ

12 сакавіка ў памяшканні ГП на Варшаўскай 11 у Беластоку адбудзецца справаздачна-выбарная канферэнцыя беластоцкага павятовага аддзела БГКТ.

Пасля яе, у 14 гадзін, распачнецца агляд беларускай песні — 72. Праўленне аддзела просіць усіх тых, якія злажылі заяўкі на конкурс, каб абавязкова прыехалі. Агляд песні будзе свайго роду мастацкай часткай канферэнцыі.

(мх)



# У школе ў Дубінах

У пачатковай і засаднічай сельскагаспадарчай школах у Дубінах, Гайнаўскага павету, актыўна дзейнічае Ліга аховы прыроды, якой ужо пяць гадоў кіруе настаўнік Кастусь Лапінскі. Арганізацыя гэта налічвае 54 асобы. Члены ЛОП зрабілі 54 кармушкі для птушак і амаль столькі ж паснікаў для зайцаў і сарнаў, у якія сістэматычна дастаўляюць корм. Апрача таго, школьнікі ліквідуюць плёнткі, якія ставяць на зайцаў бракан'еры. Летам пасадзілі яны каля 5 га лесу і абгарадзілі некалькі мурашнікаў. Варта адзначыць, што Галоўнае праўленне ЛОП узнагародзіла членаў ЛОП з Дубін дыпломам.

✲

У школе ў Дубінах дзейнічаюць дзве каманды зухаў: каманда «Палявыя кветкі» і каманда «Вясёлыя пызы». Працай зухаў кіруюць настаўніцы Надзя Гаган і Тамара Барада. Зухі арганізавалі ў сябе навагодні маскарад, розныя цікавыя ігры, конкурсы і г.д. У днях, калі адбываліся спартыўныя спаборніцтвы ў Сапора, зухі арганізавалі ў сябе таксама спаборніцтвы. Пераможцам у спаборніцтвах уручаліся залатыя, сярэбраныя і бронзавыя медалі. Станавіліся яны на спецыяльна падрыхтаваныя ўзвышэнні іігралі ім фанфары. Цяпер усе зухі дапамагаюць крылатым сябрам перажыць зіму. Прыносяць яны і сыплюць у кармушкі зерне і акрушыны хлеба. Рыхтуюць яны таксама ўрачысты сход з нагоды Дня жанчын, на які запросяць сваіх мам.

54-асабовая гарцэрская каманда імя генерала К. Свярчэўскага актыўна ўключылася ў святкаванне 30 гадавіны ППР. Гарцэры наведалі членаў ППР у сваёй вёсцы і ўручылі ім віншавальныя лісты, арганізавалі з імі сустрэчы ў школе. Апрача таго, гарцэры выступалі з мастацкай часткай на грамадскай акадэміі, прысвечанай гадавіне ППР. Калі снег заваліў дарогу, усе гарцэры ачышчалі яе ад снегу. Цяпер рыхтуюцца яны да святкавання Дня жанчын і да ўрачыстай вечарыны, прысвечанай генералу Свярчэўскаму. На сваіх сходах гарцэры абмеркавалі план дапамогі пажылым і адзінокім жыхарам сваёй вёскі. Пастаянна вядуць яны сваю гарцэрскую хроніку.

✲

У школе ў Дубінах арганізавана «Шклянка цёплай кавы». Карыстаецца з яе 71 вучань. Булачкі з каўбасой або маслам і джэмам яны бяруць з сабою з дому. (ЦЯ)

*Фота аўтара*



*Вучні ЗСР вешаюць кармушкі для птушак.*

# ТАК БЫВАЕ...

## МАМІН СЫНОК

У Івана Грыбкоўскага мяккі характар, і ніколі не хапае яму сілы супрацьставіцца жонцы ў выхаваўчых справах свайго сына. Ён часам папракаў Марысю за тое, што дазваляе рабіць Ромусю ўсё тое, што яму падабаецца. Але жонка заўсёды ўмела збіць яго доказы і яе, як кажа пагаворка, заўсёды д'ябал старшы.

Ужо ў дзяцінных гадах Ромусь быў асноўнаю асобаю ў хаце і заўсёды меў ён рацыю, ніколі ў нічым не быў вінаваты. Калі пачаў Ромусь хадзіць у школу і дрэнна вучыўся, маці знаходзіла аргументы, каб даказаць, што ў гэтым вінаваты настаўнікі. А калі 10-гадоваму Ромусю спадабалася пускаць дым з папяросы, маці на гэта зусім не рэагавала.

Потым Ромусь захацеў мець фотаапарат — быў фотаапарат. Потым захацелася яму мотавеласіпеда, і гэта купілі бацькі. А пасля захацелася адаптара.

Ромусь меў цяжкасці з заканчэннем пачатковай школы. Але бацькі дабіліся таго, каб двоек не было і каб іх сынок паступіў у будаўляна-дарожны тэхнікум. Зразумела, што не мог ён яго закончыць. Маці тлумачыла гэты факт тым, што на іх сына заўзяліся дзве настаўніцы.

Ромусю не хапала часу на вучобу. Пасябраваў ён з такімі самымі абібокамі, як сам, пачаў заглядаць да чаркі і за дзяўчатамі свету не бачыў. Закахаўся. Пасля выпрасіў у мамы згоду, каб яго нарачоную ўзялі бацькі на сваю кватэру, бо яна здольная дзяўчына і дапаможа яму ў вучобе. Ромусь пачуўся дарослым і патрабаваў усё больш і больш грошай на распусту. І атрымоўваў. І бушаваў. Заходзіў ён у бар «Вжос», зневажаў там людзей і паводзіў сябе нахабна, співаўся і авантураваўся. У чарговай бойцы пакалечыў чалавека і за гэты хуліганскі паступак быў засуджаны на паўгода. Маці ізноў даказвала невіноўнасць сына, абвінавачвала іншых. Урэшце з турмы Ромусь вярнуўся дамоў. Пасля прыйшоў час ісці да войска. Там дысцыпліна. А Ромусь паступаў па-свойму. Пабіў свайго начальніка. Засудзілі яго вайскоўцы на два гады. Нарачоная Ромуся ўжо не стала яго чакаць. Крыся скончыла школу, развіталася з хатай Грыбкоўскіх і выйшла замуж. І жыве добра. А Ромусь церпіць за свае і бацькоўскія грахі.

*М. Хмялеўскі*

# ВАРШАЎСКІ БАЛЬ

Надвор'е вечарам пятнаццатага студзеня было цудоўнае, каб толькі яшчэ не гэты страшны мароз, зусім не варшаўскі. Асабліва, калі чакаеш таксі. Урэшце едзе. Сядаем шчаслівыя і: «Палац культуры і навукі. Галоўны ўваход». Едзем. Хаця толькі восьмая вечара, людзей на вуліцы нямнога, ды і тыя, хаваючы галовы ў каўнер, амаль подбегам кудысьці спяшаюцца. Заўважаю іх позіркі, зайздросныя, быццам бы гаварылі «во гэтакім павязло». Таксі затрымалася. Мы, як і людзі з плошчы, подбегам накіроўваемся ў бок галоўнага ўваходу.

Тут разглядаемся. Многа народу, які тут ужо павольна перамяшчаецца, адны цавала больш як па дзесяць чалавек; часткова дэкарацыю на баль атрымалі ад арганізатараў балю „Przodowników pracy" які таксама адбываўся ў Палацы культуры і навукі. Потым нашу ўвагу прыцягвае аркестр. Толькі колькасці членаў аркестра не магу далічыцца. Потым даведваюся, што іграюць два спалучаныя аркестры.

«Галоўнакамандуючы» балем Янка Забродскі сказаў мне, што гуляе тут каля 450 чалавек. Прыехалі яны з Гайнаўкі, Бельска, Беластока, Седлец, Лодзі, з Гданьска дык нават сама сакратар аддзела БГКТ Аня Красько; у асноўным аднак «варшавякі». У зале відаць вольныя месцы. Дзіўна, а ўжо на тыдзень перад балем гаварылася, што ўсе білеты прададзены. Маё паляванне на сенсацыю, ці, інакш гаворачы, на большую аферу зусім не ўдалося. І тут быў вінаваты мароз, які перапужаў нават многіх выхаванкаў Беласточчыны. Тыя, што былі ўжо ў зале, зусім забыліся аб марозе, аб холадзе, тут было цёпла, міла. З розных бакоў далятлі напевы знаёмых з дзяцінства песень. Штораз хтосьці сустракаў знаёмага і — «колькі лет, колькі зім» чуваць было громкае, ды званілі на шчасце, на добрую долю і на наша здароўе. Амаль без перапынку іграла музыка. Усе былі здзіўлены, калі ім паведамілі, што ўжо шостая гадзіна раніцы і канец балю. Не падумайце, што ўсе так адразу і пайшлі дахаты. Многія яшчэ засталіся, каб паспяваць тое, «што ў нас на вёсцы спяваюць».

ўваходзяць у лабірынт Палаца, а іншыя ўсё наплываюць і наплываюць з панадворка. Дзе тут знайсці залу імя Дзяржынскага? Па-над галовамі, на апошняй ступені сходаў у гардэроб, заўважаю як бы кіруючага гэтым цячэннем, з чырвоным банцікам у кляпе замест кветкі, сакратара аддзела Янку Забродскага і яшчэ двух малайцоў, таксама з банцікамі. Яны штораз змяняюцца. Так, гэта хлопцы з парадкавай службы, праваднікі ў лабірынце палаца. Пры іх дапамозе нам лёгка ўдаецца трапіць на сваё месца. Пасля некалькі хвілін чакання ў чарзе да буфета, які вядзе ВЗГ «Старэ Място», і наш столік робіцца больш мілым для людскога вока. Цяпер ужо можна заняцца духоўнымі справамі, паглядзець, паслухаць. Здзіўляе сваёй прыгажосцю і велічынёй зала, плошча якой больш тысячы квадратных метраў. Дэкарацыі такой бадай яшчэ і не было, як беларускія балі балямі ў Варшаве. У перапынку ў часе танцаў спатыкаю галоўнага дэкаратара Янку Кабаца, родам з Гайнаўшчыны, цяпер студэнта архітэктуры Варшаўскай палітэхнікі. Ад яго даведваюся: пры дэкараванні залы штодзень, г. зн. у чацвер і пятніцу да дванаццаці гадзін ночы, а ў суботу да трох гадзін пасля абеду, пра-

А потым? Потым была нядзеля і ўсе дома адпачывалі. Не адпачывалі адны арганізатары. Яны думалі, як навесці парадак і як іх ацэняць не толькі прысутныя на балі, а і гаспадары. Як ацэняць удзельнікі, яшчэ не вядома, вядома затое, што кіраўніцтва Палаца культуры і навукі ацаніла вельмі высока як удзельнікаў, так і арганізатараў.

*Белы*

## ВЁСКІ ЭЛЕКТРЫФІКУЮЦЦА

Зараз у Беластоцкім ваяводстве ёсць 3.310 электрыфікаваных вёсак, што абазначае 91,6% усіх вёсак. Сялянскія сялібы (у тым ліку сялібы на калёніях) электрыфікаваны ў 82,2%. У мінулым годзе былі поўнасцю электрыфікаваны вёскі ў Беластоцкім павеце. У гэтым годзе поўнасцю будуць электрыфікаваны вёскі на Дуброўшчыне і Гайнаўшчыне. На Дуброўшчыне электрыфікацыя будзе праводзіцца ў 10 грамадах коштам 27 млн 668 тысяч злотых, а на Гайнаўшчыне на тэрыторыі цэлага павету коштам 20,5 млн злотых. У 1973 годзе будзе закончана электрыфікацыя на Сакольшчыне, Бельшчыне і ў Сямяціцкім павеце.

Варта адзначыць, што цяпер уводзіцца ў значнай ступені мадэрнізацыя ўсіх электраліній. Зараз не выступаюць, як бывала дагэтуль, «скокі» ў напружанні электрычнага току. Драўляныя слупы, якія падтрымліваюць электрычныя правады, адслужваюць сваё 10 гадоў і зараз выменьваюць іх на слупы з жалезабетону, якія могуць служыць 50 і больш гадоў. У многіх вёсках і мястэчках змяняецца вулічнае асвятленне на ртутнае і яжэнёвае. Сяляне могуць ужо падключаць да сваіх сялібаў электрычны ток напружання трох, ды нават сямі КВг. (ЦЯ)

## Новы клуб «РУХ»

Нядаўна прадпрыемства «Рух» у Беластоку адкрыла свой клуб у вёсцы Залукі (Беластоцкі павет). Займае ён два пакоі ў мясцовай рамізе. У адным пакоі ёсць тэлевізар, радыёпрыёмнік з праігрывацелем, дыяскоп, столікі, крэслы, настольныя ігры і г.д., а ў другім — паліцы, на якіх знаходзяцца кніжкі, прэса, цацкі, піражнае, цукеркі, папяросы, туалетныя прыборы і г.д. Працай клуба кіруе Ірэна Паплаўская. Вядзе яна карысную працу са школьнай моладдзю пасля ўрокаў. Між іншым, збірае яна моладзь у клубе і чытае ёй цікавыя кніжкі або дэманструе каляровыя дыяпазітывы з казкамі. Апрача таго, загадчыца клуба прымае падпіску на прэсу, нават на тую, якая лімітаваная. З падпіскі на часопісы ў клубе ахвотна скарысталіся мясцовыя настаўнікі.

Варта адзначыць, што пры абсталяванні клуба многа папрацавалі грамадскім чынам члены залукаўскай арганізацыі ЗМВ. Зараз у клубе збіраецца штовечар многа жыхароў мясцовай, а нават і суседніх вёсак. Прыемна тут і ўтульна. (яц)

АГЛЯДЫ ПЕСНІ І ДРАМГУРТКОЎ

## Як з гэтым у Бельскім павеце?

Як нам паведаміла інструктар бельскага аддзела БГКТ, у павеце гэтым наступныя асобы і гурткі прымуць удзел у аглядах:

На беларускую песню — 1972:

Лідзія Ільяшук, Антаніна Ільяшук, Таіса Філіманюк з Рыбалаў;

Людміла Рыбак з Міклашоў;

Юрка Лупінскі з Стрыкоў;

Марыя Врублеўская, Юрка Перавой з Агароднікаў;

З Грэдалёў вялікая група: Софія Бало, Ольга Амельянюк, Лідзія Максімюк, Ірэна Паўлючук, Елена Васілюк, Надзея Прахарук, Валянціна Барута.

Не выявіліся яшчэ прозвішчы асоб з вёсак Войшкі, Дубяжын, Паўлы, Зубава, Цялушкі, якія захочуць прыступіць да агляду.

З вёскі Тапчыкалы таксама будуць тры ўдзельнікі агляду: Анна Баран, Марыя Крук, Ян Шчыгел. Групу гэтых удзельнікаў арганізавала і рыхтуе да агляду Ольга Пракапюк, кіраўнік грамадскай бібліятэкі ў Грэдалях.

А вось назвы вёсак, з якіх мастацкія драмгурткі выступяць у аглядзе на найлепшы драмгурток 1972 года:

Сакі — кіраўнік Міхась Шаховіч,

Паўлы — Валянціна Мароз,

Рыбалы — Сяргей Філіпюк,

Катлы — Люба Карыцкая,

Плёскі — Вераніка Леанюк,

Міклашы — Аляўціна Рыбак.

Усім з Бельшчыны, хто пастанавіў прыняць удзел у беларускіх аглядах, жадаем шырокай і гладкай дарогі. (вл)

## Зацікаўленне конкурсам

Вялікае зацікаўленне чытальніцкім конкурсам пад загалоўкам «Ідэі ППР вечна жывыя» наглядаецца ў Гарадку і цэлай гарадоцкай акрузе. Кіраўнік грамадскай бібліятэкі ў Гарадку Тамара Бурачэўская мае зараз больш 150 заяў аб удзеле ў конкурсе. Найбольш заяў паступіла ад рабочых трыкатажнага камбіната «Каро», членаў ЗМВ, працаўнікоў ГРН, партыйнай арганізацыі і школьнікаў з Гарадка, ад членаў ЗМВ у Страшаве, гуртка вясковых гаспадыняў (КГВ) у Бялявічах, ад калектываў сельскагаспадарчай падрыхтоўкі (ПР) у Вейках і Падазяранах.

Варта адзначыць, што ў рамках папулярызацыі конкурсу праведзены шматлікія гутаркі і дыскусіі над кніжкай пад загалоўкам «Гісторыя польскага рабочага руху», а таксама была арганізавана выстаўка. (ця)

## ЛЮДЗІ БГКТ

## Марыя Кузьма

Ужо 10 год працуе ў ГРН у Клюковічах рэферэнтам скупкі. Сярод насельніцтва карыстаецца вялікім аўтарытэтам, таму што яна ўчынная, добра, палюдску выконвае свае абавязкі, ветлівая. Адным словам, працаўнік з яе слушны. Жыве яна ў суседняй вёсцы Вычулкі. Там яна ўжо многа год узначальвае гурток БГКТ. У мінулых гадах быў у Вычулках добры драмгурток, у якім яна сама выконвала галоўныя ролі.

Пасля таго, як Марыя вышла замуж і прыбыло ёй шмат сямейных абавязкаў, драмгуртком не было каму заняцца. Але ўжо падраслі дзеці, і цяпер яна сама сцвярджае, што ўсё зробіць, каб зноў распачаў працу мастацкі калектыў.

*М. Хмялеўскі*
*фота Я. Цялушэцкі*



Тым больш, што натоўпы прыгожа апранутых сялян стаялі абапал дарогі. Сяляне маліліся, спявалі песні, танцавалі, трымалі ў руках кнігі. Атрымлівалася карціна ідылічнай сытасці і шчаслівасці. Карціны гэтыя аднак не мелі нічога супольнага з рэчаіснасцю. І рускі, і беларускі мужык жылі ў бядзе і нястачах. І зразумела, тэатральныя прыёмы Пацёмкіна і ўсёй царскай адміністрацыі не маглі нават на вяршок палепшыць народнай долі.

І так, народ быў цёмны. І таму існавала неабходнасць не толькі ствараць беларускую літаратуру, але знайсці людзей, якія гэтую літаратуру будуць чытаць народу. Гэты стан рэчаў мусіў акрэсліць характар беларускай літаратуры ў перыяд яе адраджэння. Літаратура гэта была прадуктам інтэлігенцыі, творчая інтэлігенцыя была прадуктам слоя землеўласнікаў. Пісьменнікі ў меншай або большай ступені разумелі недасканаласць існуючай сістэмы, але ніводзін з іх, за выключэннем Каліноўскага, не выступаў за ліквідацыю феадальнай сістэмы. Пісьменнікі гэтыя марылі пра паляпшэнне жыцця селяніна, пра паляпшэнне адносін паміж панам і селянінам, але працэс гэтага паляпшэння звязвалі толькі і выключна з маральным удасканальваннем людзей. Такая канцэпцыя мусіла зрадзіць літаратуру дыдактычную, літаратуру маралізатарскую, літаратуру хлапаманскую.

Няма сумненняў, што якраз такой і ёсць беларуская літаратура ў першы перыяд свайго адраджэння — у пачатку XIX ст.

Пачатак на стар. 1

## ПЕРАДАВЫ РАБОЧЫ І АРГАНІЗАТАР

нення раз'яснілі твары рабочых, стала цёпла і радасна на душы ў Яна Войны. Хто як хто, але ён разумеў чалавечую радасць з працы.

Нарадзіўся Ян Война 21 мая 1935 года тут, у Орлі, у сям'і рабочага. Бацька быў кавалём, працаваў у варштатах у гэтай жа кафлярні. Трагедыя апошняй вайны сваім крывавым крылом зачапіла і сям'ю Войнаў. У часе ваенных дзеянняў у 1941 годзе загінуў бацька. Удаве з пяцю маленькімі дзяцьмі ва ўмовах гітлераўскай акупацыі было жудасна цяжка пракарміцца, адзецца, пражыць. Ужо тады маленькі Яначка глядзеў на жыццё па-даросламу, зведаў цану кавалка хлеба і вартасць дабраты людскога сэрца. І чуласць да чалавечага гора, бяды і крыўды трывала закаранілася ў яго душы.

Пасля заканчэння пачатковай школы ў Орлі ён выбраў сабе прафесію свайго бацькі. Паступіў у завадскую механічную школу ў Гайнаўцы. І вось ужо чатырнаццаць год ён працуе механікам-экскаватаршчыкам у Орлі: летам — у цагельні, зімой — у кафлярні. І за гэтыя доўгія гады ні адна грамадска карысная справа ў мястэчку не адбылася без удзелу Я. Войны. Любяць і шануюць яго арлянцы, а доказам гэтага з'яўляецца факт, што ад 1960 года яго нязменна выбіраюць сакратаром партыйнай арганізацыі.

Калі ўсю краіну ахапілі ідэі аднаўлення жыцця і гаспадаркі, распачатыя на VII і VIII пленумах ЦК ПАРП, Ян Война ішоў ад рабочага да рабочага, пытаючы, што можна змяніць на лепшае на абодвух прадпрыемствах, каб і вытворчасць павысілася і ўмовы працы палепшыліся. І рабочыя падалі яму звыш дваццаці прапаноў, якія можна было здзейсніць на месцы, не ўклаўшы ні граша дадатковых інвестыцый. Прыступілі да іх выканання зараз жа, не адкладаючы. І кафлярня з апошняга (на восем прадпрыемстваў у трэсце) паднялася на чацвёртае месца. А ў гонар VI з'езду калектыў кафлярні даў дадатковую прадукцыю вартасцю ў 15 тысяч злотых. У цагельні рабочыя выканалі чын у 7 тысяч злотых. Рушылі таксама справы сацыяльнага забеспячэння, асабліва ў цагельні, дзе былі найбольшыя занядбанні. Абсталяваны раздзявальні, умывальні з халоднай і цёплай вадой, святліцы, у якіх можна спакойна з'есці снеданне. Цяпер жа думкі рабочых канцэнтруюцца вакол таго, як павысіць якасць кафлі і цэглы.

5 лютага 1972 г. адбылася канферэнцыя рабочага самаўпраўлення на прадпрыемстве будаўнічай керамікі ў Сямяцічах, да якога належаць кафлярня і цагельня з Орлі. У адказ на заклік партыі і ўрада аб павелічэнні звышпланавай прадукцыі канферэнцыя вырашыла даць дадаткова 100 тысяч штук кафляў і 200 тысяч штук місачак да знічаў. Гэта складзе дадатковую вартасць прадукцыі ў адзін мільён злотых. Трэцюю частку звышпланавых місачак да знічаў (60 тысяч штук) дасць кафлярня з Орлі. Іх выраб абыдзецца без дадатковых коштаў, без дадатковага расходу дроў на выпал. Апрача гэтага, арлянскія рабочыя выказалі сваю гатоўнасць даць, калі гэта спатрэбіцца, дадатковую прадукцыю і кафляў і цэглы. На канферэнцыі сярод дэлегацыі арлянскіх рабочых быў і Ян Война.

Калі на ціхае мястэчка апускаўся шэры лютаўскі змрок, я наведаў Яна Войну ў яго доме. З прыемнасцю пераступіў парог гэтага новага, мураванага, прыгожага доміка. Пабудаваў яго Я. Война нядаўна гаспадарчым спосабам, большасць будаўнічых работ выканаў сам уласнаручна. Унутры дома — чыста, утульна, парадак. Адразу відаць, што ў ім жывуць гаспадарлівыя і інтэлігентныя людзі.

Гаспадыня дому — Ніна Война схілілася каля стала над вучнёўскімі сшыткамі, папраўляе дыктант. Яна ўжо пятнаццаць год працуе настаўніцай. Старшы сын — дванаццацігадовы Міша заглыбіўся ў чытанне кнігі. Дзесяцігадовая Святлана пад наглядам таты робіць урокі. Толькі паўтарагадовы Яначка бушуе па пакоі і, як кажа пані Ніна, проста ўправы на яго няма...

Я глядзеў на гэтую ціхую і працавітую сям'ю, прыгадваў новыя мураваныя дамы, што за апошнія гады выраслі ў мястэчках і сёлах Бельшчыны, і думаў:

«Адпаведнага маем кандыдата на пасла ў Сейм. Ян Война поўнасцю заслугоўвае на тое, каб быць прадстаўніком усіх нас у нашым народным парламенце».

*Мікалай Гайдук*
*Фота — Я. Цялушэцкі*

СЛЕДАМ НАШЫХ ПУБЛІКАЦЫЙ

## У КЛЕНІКАХ УЧОРА І СЁННЯ

Ужо мінае шосты год з таго часу, калі два журналісты нашага тыднёвіка пісалі пра Кленікі: «У пачатку нашага веку Кленікам пашанцавала мець энергічнага свяшчэнніка Івана Хлябцэвіча... За прычынаю яго ды ягоных сыноў у 1907 годзе створана ў Кленіках публічная бібліятэка. Раней, недзе ў 1905 годзе, Хлябцэвіч перабудаваў сваю лазню на царкоўна-прыхадское жаночае вучылішча для кленіцкіх дзяўчат».

Аўтары гэтага артыкула ў 1966 годзе пісалі: «Слава Кленікаў у спорце. Кленіцкія спартсмены выйшлі на агульнаваяводскую арэну: рыхтуюцца да ваяводскай спартакіяды ў Алецку...» А старшыня грамадскай рады ў Кленіках скардзіўся, што ў Кленіках пануе сярэднявякоўе, што вельмі павольна змяняюцца тут навыкі і звычаі... Ёсць 22 гаспадары, якія нічога не плацяць дзяржаве, і іхнія гаспадаркі трэба адчужаць — «вывлашчаць».

Едзем у Кленікі, каб паглядзець і параўнаць, што тут новага, што змянілася.

### КЛЕНІЦКАЯ «СЛАВА» — ЗАРАЗ

У Кленіках існуе клуб гаспадара. У часе нашай пабыўкі тут адбываўся курс трактарыстаў. Побач з клубам жыве адна «гаспадарная» жанчына. Праўда, збожжа з поля збірае яна ў кастрычніку, затое дасканалая ў пастаўцы гарэлкі, якую ў яе хаце можна купіць заўсёды. Што праўда, то праўда — наша знаёмая замнога на ёй не зарабляе, усяго 10 зл. на паўлітры. Але калі кленіцкая крама закрыта з прычыны, напрыклад, інвентарызацыі, аж два разы ездзіць яна ў Чыжы, адкуль прыпірае з мяшком гарэлкі. І хто тут скажа, што яна не аператыўная? А кандыдатам на трактарыстаў дык проста роскаш: праз плот, за паўлітра, назад — і ўжо можна «курсавацца».

І не думайце, шаноўныя чытачы, што гэта адзіны выпадак у Кленіках. Тут усе ведаюць, што такіх «патаемак» у Кленіках ёсць пяць — шэсць. Калісь нават спрабавала ўмяшацца ў гэтыя справы «калегія», але нічога не выйшла, бо ўсё даравала амністыя.

Хтосьці дасціпны ў адзін святочны дзень (калі закрытая крама) пастанавіў падлічыць колькасць прададзеных паўлітровак. Пераканаўся, што прададзена больш 50 бутэлек гарэлкі з заробкам на кожнай 10 зл., што раўняецца 500 злотых даходу. Дзе столькі заробіш?



*Сяло Кленікі зімой.* *Фота А. Карпюк*

Нядрэнныя агульныя вынікі кленіцкага п'янства. У вёсцы ёсць нямала «налаговых» п'яніц, многа кандыдатаў на гэтую грамадскую хваробу. У мінулым годзе малады 35-гадовы мужчына затравіўся алкаголем. Мікалаю М. 32 гады, яго гаспадарка знішчэлая, зрэшты, не гаспадарыць на ёй, а толькі п'е. Падобная справа з Фёдарам К. і іншымі. Ды і сам скляповы спажывецкай крамы — гэта чалавек хворы алкагалізмам. Трымаюць яго тут, як гавораць, толькі таму, што яму недалёка да пенсіі і што ён... заслужаны.

Што ж зараз такая «кленіцкая слава»?!..

За апошнія 6 год Кленікам прыбылі новыя ўстановы. Стала больш ураднікаў, кіраўнікоў. Ёсць тут сушарня зялёнай травы і бульбы, «жвіроўня», МБМ. Зласлівыя гавораць, што некаторыя «патаемкі» з гарэлкай і вінам паўсталі на тое, каб абслугоўваць гэтыя ўстановы, «дзе без гарэлкі не абыйдзецца». Мы гэтага не пацвердзілі, але ў гэтай няпраўдзе можа быць і праўда — гэтага не выключаем.

Дык загінулі слаўныя традыцыі чытальніцкай працы, працы асветнай, загінула прыгожая традыцыя кленіцкага спорту. П'янства стала кашмарам.

Але зорачка надзеі існуе. У Кленіках распачала працу сельскагаспадарчая школа (ЗСР). Тут моладзь «быстрая». Трэба спадзявацца, што калі дойдуць да гаспадарання вёскаю, адменяць яны славу Кленік у напрамку, які ведае гісторыя гэтай мясцовасці і патрабуе сучаснасць.

*А.Лабановіч*



*Іх чакаюць Кленікі. Вучні ЗСР.*



© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

## Песенка пра дабрату

*I я б хацеў начыстату*
*Пагаварыць пра дабрату,*
*Ды лепей прыйдзецца, відаць,*
*Старую прытчу нагадаць.*

*Калісьці дзесьці дабрата*
*Хадзіла ў выглядзе ката,*
*I вось чаго той добры кот*
*Дабіўся меней чым праз год.*

*Як зразумелі пацукі,*
*Што ў іх гуманны кот такі —*
*Спярша, адчуўшы дабрату,*
*Яны аб'елі хвост кату.*

*Пасля аднойчы на двары*
*Ушчэнт абгрызлі кіпцюры,*
*I засталася дабрата*
*Без кіпцюроў і без хваста.*

*Тады ўсе мышы, пацукі*
*Пакралі з вышак кумпякі*
*I загулялі — будзь здароў!*
*Бо што ім кот без кіпцюроў?*

*Я прытчу ўспомніў тут знарок,*
*Бо ў ёй даецца мудры ўрок,*
*Што ў дабраты, мае сябры,*
*Павінны быць і кіпцюры!*

*Ніл Гілевіч*



*Усё людское нам не чужое.*




### Талаваломка

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 2 | 4 | 3 | | 1 | 2 | 3 |
| | 1 | 5 | | 4 | 5 | |

Перамясціце цыфры, каб ад расстаноўкі іх з левага боку перайсці да расстаноўкі на правым. Які мінімальны лік перамяшчэння трэба зрабіць?

*Адказ на заданне з папярэдняга нумара:*



### У ЗААПАРКУ

Прадстаўнік аднаго заапарку прыехаў у пустыню Сахару і пытаецца ў мясцовага паляўнічага:

— Як у Сахары злавіць льва?

— Трэба праз сіта прасеяць увесь пясок, і тады на дне застанецца леў.

### НА ВАКЗАЛЕ

На вакзале адзін мужчына пытае ў бюро даведак:

«Як доўга ехаць ад Берліна да Лейпцыга?»

«Тры гадзіны», — адказвае яму служачы.

«Ад Лейпцыга да Берліна?»

«Не задавайце бязглуздых пытанняў! Гэта ж адно і тое ж!»

«Не, не заўсёды! Ад верасня да снежня тры месяцы, а ад снежня да верасня дзевяць месяцаў!»

### У РЭСТАРАНЕ

— Мне вельмі прыемна, што вам падабаецца наша страва. Заказаце яшчэ?

— Хіба толькі паўпорцыі. Палавіну бульбіны і палавіну качкі.

### У СУДЗЕ

Суддзя пытае ў падсуднага:

— Вас раней прыгаворвалі да турэмнага зняволення?

— Ніколі! — усклікнуў падсудны і зарыдаў.

— Ну-ну, не плачце, мой дарагі, зараз мы гэта выправім.

### САБАКА

«Сёння ваш сабака брахаў усю ноч!»

«Не хвалюйцеся, ён высыпіцца ўдзень».

### ПРАВЕРКА

Настаўнік піша некалькі англійскіх слоў на дошцы. Тут ён бачыць, што Павел на апошняй парце заснуў.

«Чаму ты спіш, Павел?» — пытае гучна настаўнік.

Павел хутка ўскоквае і адказвае: «Я чытаў у газеце артыкул аб вывучэнні замежных моў у сне і хацеў гэта на практыцы праверыць!»

*Без слоў.*

*Гумар з барадою*

## Мужык ды Мар'я

Мужык з жонкаю вярталіся з базару. Вядома, мужык перад дарогаю заскочыў у шынок і добра перахапіў. За гэта жонка яго вельмі лаяла:

— Які ж ты гаспадар? Не паспела адвярнуцца, а ён ужо набраўся, як мачалка вады... Капейку пабярог бы...

— Ну, хопіць, Мар'я, ты ўжо дзесяты раз гэта гаворыш... Я ж не глухі...

— Лепей бы ты аслеп, то не пабег бы ў шынок...

— Ну, Мар'я, ну до ўжо...

— Я вось табе як докну!..

— Мар'я, калі не перастанеш, утаплюся...

— Глянула б я, як ты будзеш тапіцца, — з'едліва насміхалася жонка.

Якраз яны праязджалі рачулку. Мужык пацягнуў за лейцы «тыр-у-у-у» — і спыніў каня сярод рачулкі.

Жонка нешта забавілася, а мужык тым часам скок з воза, шапку кінуў на ваду, а сам пад воз.

Глянь жонка, а мужыка няма. Убачыла яна шапку на вадзе і ў чым была, у тым і шаснула ў ваду, лемантуючы:

— Ой ты, родненькі мой, а дзе ж ты, а на каго ж ты мяне пакінуў?

Мужык стаіць, сагнуўшыся пад возам, ды толькі пасмейваецца.

— Іва-а-анка, даражэнькі, даруй мне, вярніся!

Іван вылез з-пад воза.

— Чаго ты, дурніца, раскрычалася на ўсю губерню. Тут я!..



*Мошэ Даян: — Гавары мацней — не чую!*

### СЫН

— Ах, сынок, лайдаком ты расцеш, гультаём! А ведаеш, колькі мне каштуе твая вучоба?

— Вось бачыш, тата. А я яшчэ не вельмі моцна вучуся.

### НЕ РАЗГУБІЛАСЯ

Хлопец звяртаецца да незнаёмай дзяўчыны:

— Вы мне вельмі падабаецеся. Хацелася б пазнаёміцца бліжэй. Дзе мы маглі б сустрэцца?

— Заўтра каля загса.

### ЛАГІЧНЫ АДКАЗ

Жонка сярдзіта пытаецца ў мужа:

— Скажы ты мне, адкуль на кухні столькі пустых бутэлек?

— А хіба я ведаю? Ты ж сама знаеш, што я пустых бутэлек не купляю.

ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Елі Дудзік і Рэні Харкевіч са Слабодкі, Гайнаўскага павету, змяшчаем рускую песню:*

## Расцветай, Сибирь!

*Слова Э. Иодковского*
*Музыка В. Мурадели*

Веет свежестью
Ночь сибирская,
Собрались друзья у костра...
Ты навеки нам
Стала близкою,
Величавая Ангара.

Дом родимый свой
У Москва-реки
Мы оставили навсегда,
Чтобы здесь, в тайге,
Встали фабрики,
Встали новые города.

Всё мне дорого
В новом городе,
Где увидел взгляд милых глаз.
Возмужала здесь
Наша молодость,
Здесь любовь у нас родилась.

Не пугает нас
Непогодина,
Не замёрзнем мы за рулём.
Расцветай, Сибирь,
Наша Родина,
Та, что матерью мы зовём!

Нет, с Сибирью мы
Не расстанемся,
Вера юности горяча,
В золотых огнях
Гидростанции
Пусть живёт мечта Ильича!

### НЕ ЗАЎСЁДЫ

«Скажыце, пан доктар, ці заўсёды вам удаецца без болю рваць зубы?» — зацікаўлена пытае пацыент.

«Не, не заўсёды. Учора я вывіхнуў пры гэтым сабе руку».

### ДАЎГІ

— Што з табой, Васіль?

— Даўгі мяне мучаць.

— Што, не можаш з іх вылезці?

— Не, далей не магу залезці.



*— Купіў вось калошы нейкай новай моды.*




### ТАЙНА УНІКАЛЬНАГА КАНВЕРТА

На канверце дзве аднапенсавыя маркі вострава Маўрыкія. У канверце знаходзіцца пісьмо, напісанае ў 1850 годзе жонкай губернатара вострава Маўрыкія лэдзі Гом Томасу Жэрому ў Бамбей. Прыбыўшы ў Індыю, пісьмо не застала адрасата, і, згодна з мясцовымі паштовымі правіламі, яно праляжала ў архіве паштовай канторы звыш 40 гадоў. У 1897 годзе адзін англійскі філатэліст знайшоў пісьмо на бамбейскім базары і набыў яго за 50 фунтаў стэрлінгаў. На працягу наступных 20 гадоў канверт, так і не раскрыты, пабываў у некалькіх англійскіх калекцыях. У 1917 годзе ён перайшоў да вядомага амерыканскага філатэліста А. Ліхтэнштэйна, у калекцыі якога захоўваўся больш чым паўстагоддзя.

У 1969 годзе канверт з дзвюма ружовымі «Маўрыкіямі» звонку і таямнічым пісьмом лэдзі Гом унутры выклікаў азартныя торгі на аўкцыёне. Паядынак вялі два прэтэндэнты: упаўнаважаны вядомага японскага калекцыянера Канаі Хірукі і гандляр маркамі з Новага Арлеана Раймонд Вэйл. Апошняе слова засталося за Вэйлам, які даваў за канверт да 380 тысяч долараў.

Пасля аўкцыёна журналісты звярнуліся да новага ўладальніка унікальнага канверта з пытаннем: ці не збіраецца ён распячатаць канверт і прачытаць таямнічае пісьмо лэдзі Гом? Р. Вэйл адказаў, што такую магчымасць ён прадставіць таму, хто заплаціць яму больш высокую суму, якая задавальняла б яго.




*Ён не ведаў, дзе яму давядзецца ўпасці, таму заўсёды насіў з сабою салому.*